«Бібліятэка «Вожыка» № 4 (220)

Данута БІЧЭЛЬ — Алесь ЧОБАТ

# КРЭСАВЯКІ

ВЕРШЫ

Мастацкае афармленне Вячаслава КЛІМЕНКІ

МІНСК — 1993

ВЫДАЕЦЦА З МАЯ 1957 ГОДА.

ВЫХОДЗІЦЬ 6 РАЗОЎ У ГОД.







## ПАД АДНОЙ СТРАХОЮ

Такое цяпер жыццё, што без гумару не разабрацца. Чаму два розныя аўтары сабраліся пад адной страхою? Так атрымалася, мусіць, таму, што яны сапраўды крэсавякі, не страцілі адчування сваіх карэнняў, а гэта часамі бывае вельмі смешна. Але нам не смешна — мы ўсё, што напісалі, напісалі абсалютна паважна. Некалі пакойнаму маршалу Жукаву сказалі, што яго ўспаміны няможна друкаваць, бо ён за ўсю вайну ані разу не сустракаўся з Л. І. Брэжневым. Тады Жукаў з дапамогай сакратарак перабраў архіў і знайшоў факт, калі ён і Брэжнеў былі на Тамані адзін ад аднаго за 150 км — маршал дапісаў, што вось хацеў ён сустрэцца з камісарам 18-й арміі, але была нялётная пагода... Калі ж яму сказалі, што гэта шырокаму чытачу будзе незразумела, маршал адказаў: «Умный поймет...».

І мы абодва лічым, што нешта такое ў гэтым маршале Жукаве ёсць, як бы там хто ні хацеў перапісаць нашу Гісторыю...

**ДАНУТА І АЛЕСЬ**




## СПРАВАЗДАЧА

## ПРА ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА

Месца Гародня застаецца вялікай сцэнай
тэатра абсурду.
Медны Ленін блішчыць, як вылізаны.
Споўніўся польскі праклён
пары міжваеннай:
«Каб цябе немцы акупавалі,
а Саветы вызвалілі!».

У вызваленай Гародні
свабодны гандаль ідзе.
Процьма свабодных заняткаў.
Саветы — без камуністаў!!!
Кожны грабе, як можа, але ніхто не крадзе.
Такіх наіўных паслалі
на перабудову ў Барысаў.

Паэты і падпалкоўнікі —
разам за Беларусь.
Дацэнты і прадпрымальнікі —
таксама за рэферэндум.
Тутэйшы сепаратызм выцягвае шыю, як гусь.
Гэта Менск непакоіць.
Але нам таго Менску — не трэба.

Ад Менску — адны падаткі.
А што ён можа яшчэ?!
Лысыя ці смаркатыя — усе яны там такія.
А тут — квітнее, хто хоча!
За мяжу нават Нёман цячэ!
Адны толькі незадаволеныя —
адстаўнікі пскаўскія...



## БАТЛЕЙКА

Чорт матляе хвастом, раздае рэкецірам вілы.
Цар Ірад душыць падаткамі і бярэ ў лапу.
Наш працавіты Янка болей не мае сілы.
Анёл прадае адраджэнства, купляе новую славу.

Селянін Сымон пакідае родны калгас.
Старшыня Станіслаў прымае гасцей высокіх.
Чужаземец Джон ратуе зусім не нас.
А цялушка Ганна зарабляе ў краях далёкіх.

Брыгадзір Мікалай пры Саветах неяк абвык.
Падпалкоўнік Махмуд усё не мае кватэры.
У каваля Юрася няма жалеза на пшык.
А дэпутат Леапольд напшыкаў кругом без меры.

Простая Пані Гандлярка трымае трох мужыкоў.
Галодны дзікі Паэт шукае шляху другога.
Лапшу на вушы Дацэнт чапляе людзям ізноў.
Сягоння ў нашай батлейцы няма аднаго Пана Бога.



## НОЧ У ГАРОДНІ НА ПЯРЭСЕЛЦЫ

Вось і цёплая ноч агарнула двары,
зоркі мілыя свецяць каханым,
не дурэюць каты, не гараць ліхтары,
пахне родным і нечым духмяным.
На Пярэселцы сон забірае правы,
адпачнём жа ад справаў і сварак;
толькі ж дзе там! — да болю давёў галавы
той суседаў шпаністы падшпарак.

З Варшавы ён
за міліён прывёз магнітафон
і малоціць, як звон,
у гнілой забудове:
«Пазьняк Зянон,
Пазьняк Зянон
не п'е адэкалон —
Пазьняк Зянон
размаўляе на мове!..».

Нам жа рана ўставаць — нам на мітынг ісці!
Мы і так нацярпеліся досыць.
Толькі што сапляркі разумеюць ў жыцці?!
Не гандлююць, не цягнуць, не носяць...
Што за матка яго?! І дзе ходзіць стары?!
Распусцілі ў канец хулігана...
А ты круцішся тут, як у чорным віры —
і табе ані грама пашаны!

А той сапляк
такі здыхляк,
а шкодны — як страмляк!
І развёў, ... яго так,
дзікі рогат і лямант:
«Зянон Пазьняк,
Зянон Пазьняк
ня робіць быле як —
Зянон Пазьняк
прыціскае парлямант!..».

— Жонка, дай карабін! Падурэлі, бічы!
Зараз я іх усіх супакою!
Толькі што з бабы ўзяць:
«Не крычы, замаўчы,
Забяруць, як за п'янку вясною...».



Кажа баба мая, каб хітрэйшы я быў
і не лез, бо як зменіцца ўлада,
буду жыць, як і жыў,
і рабіць, як рабіў,
ды яшчэ адбяруць мне пасаду.

— Ты не бі ў мядзяк! —
кажа баба так.
— А йдзі на той скразняк
і кажы ў мікрафон
пра зямлю і свабоду:
«Спадар Пазьняк,
Спадар Пазьняк,
за цябе — кулак і бядняк!
Дык рабі ўжо закон
і дай спокуй народу!».

## ПРА АДНО



Адзічэлы ля хутара сад.
Белы колер пануе ізноў.
Пазірае гісторык назад.
А паэт не шкадуе слоў.

Дзед сівы заматаў галавой.
Піянерскі запал і узрост.
Трактар песняй гудзе баявой.
Партызаны мініруюць мост.

Птушкай хочацца мне паляцець.
Пазірае гісторык назад.
Абы толькі чаго захацець.
Не схаваецца вораг і гад.

Пазірае палітык арлом.
Партызаны патрэбныя зноў.
А па Нёмане прэ крыгалом.
А паэт не шкадуе слоў.

## МЯСЦОВЫ ЧАС

Па Савецкай плошчы
на адзіным у Гародні «Мерседэсе»
праплывае акула базарнай эканомікі.

Цэлы жнівень
мэрыю штурмуюць нармалёвыя людзі,
якія прагнуць,
«чтобы их дети учились в нормальной школе!».
А першага верасня высвятляецца,
што школа сапраўды нейкая дзіўная:
у беларускай школе
настаўніцы па-беларуску не гаворацць.

Дыктары тэлебачання
цэлы час радасна пасміхаюцца.
Лясы гарацць — пасміхаюцца.
Цэны шалеюць — пасміхаюцца.
Сын матку сякерай цяпнуў — пасміхаюцца...

Сусед усё жыццё збіраў маркі.
Цяпер аказалася — не тыя, што трэба.
Кажа, калі пераблытаю талер з доларам —
пайду павешуся.

Стары з лясачкай тупае па ходніку
міма вясёлага Леніна.
«Піраходны пірывад», — як гаварыў векапомны
Мікалай Іванавіч Дземянцей.






## ПАДРОБКА ПАД ЯНА КАЗІМІРА ПАШКЕВІЧА



Полска квітнець «выбаровай»
Літва квітнець цэнай новай
там у Полсцы гарэш сееш
тут на Літве вар'яцееш
там нямчын пазыку даець
тут усё мытнік збіраець
там прыйшлі другія беды
тут панують тыя ж дзеды
там распуста і сваволя
тут спакой і пуста доля
веселіся ж ты русіне
тва слава нікгды не згіне

## П А Д Р О Б К А ПАД МАКСІМА ТАНКА



У нас іначай, чым у Варшаве, —
дай Бог здароўя ўсім дэпутатам!
Тут назаўсёды ў пашане-славе
і лад калгасны, і мірны атам.

У нас ёсць чым яшчэ пахваліцца —
прэч, буржуазная дапамога!
У нас цудоўнае кіраўніцтва —
знайшлі дурнога, за ім другога.

І справядлівасць у нас, і згода,
і заяц на цешчу не шле праклянцці!
У нас ужо ёсць роўнасць народаў —
а будзе роўнасць яшчэ ў багацці!

Таму і ставімся мы з пашанай,
да каго скажуць і загадаюць.
І хай зайздросціць пані Варшава,
што беларусы бяды не маюць!

# ПАДРОБКА

## ПАД АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

Беларусы — гэта людзі не з жалеза.
Не бярэ іх ні халера, ні іржа,
і не шкодзяць ім чужыя інтарэсы —
і навокал нежалезная мяжа!

Тут і свінні ёсць, і куры, і каровы.
Тут глядзіць і добра корміць іх народ.
Сто гадоў пра гаспадарку тут размовы.
Сто гадоў тут бульбу грузяць на усход.

Ні канава не трымае, ані яма.
Не палохаюць савецкія рублі.
Беларусы — гэта рускія таксама.
Так было і гэтак будзе на зямлі.

Супакоіцца шалёная планета,
камунізм пабудуюць за гады...
Калі зробяцца пацíху перад гэтым
беларусамі ўсе людзі назаўжды!






## ПАДРОБКА ПАД НІЛА ГІЛЕВІЧА

Ёсць справы,
якіх не саромлюся я,
хоць, праўда,
раблю я нячаста —
такая паэтава доля мая
ў слязах ад братэрскага шчасця.

Няпраўда,
што кінуць братэрства браты —
Кастрычнік калі адпалае,
у снежні мы новыя зробім масты,
і нашы народы з'яднаем!

Як бачым,
даўно быў семнаццаты год.
Цяпер з намі скача Пагоня...
Як слаўна вітаць Новай Эры прыход!
Як радасна пушча гамоніць!

Братэрства народаў,
братэрства людзей
выходзіць з мае Белавежы
і разам да шчасця ізноў нас вядзе —
праз нашы празрыстыя межы.



## АПОВЯД ШАТЛАНДСКАЙ АЎЧАРКІ БОНЫ ПРА СВАЕ КАНІКУЛЫ Ў ВЁСЦЫ БІСКУПЦЫ ЛІДСКАГА ПАВЕТА, КАЛІ ГРЫМНУЛА РЭВАЛЮЦЫЯ 1991 ГОДА, А ТАКСАМА ПАДРОБКА ПАД ЯЕ ГАСПАДЫНЮ ДАНУТУ БІЧЭЛЬ

Лёс у сабакаў сабачы.
Пуста ў людзей за душою.
Мы з гаспадыняй на дачы
марна шукаем спакою.

Знікла шляхецкая мужнасць.
Правіць савецкая раса.
Братніх народаў садружнасць
з'ела сабачае мяса.

Цэлае лета пацею —
нешта шукаю па кучах.
Кажуць, канец Дземянцею —
з'елі й яго разам з путчам?!

Лесам ляціць да Ляжневіч
пах самагонкі, як птушка.
Мінскам кіруе Шушкевіч —
вёскай кіруе чакушка.

Морду паклаўшы на лапы,
ціха драмлю да абеда.
Кажуць вясковыя бабы,
што заваюць нас шведы.

Нос не высоўваю з дома —
гэта ў маіх інтарэсах.
Шастаюць цёткі з райкома,
нібы ваўчыцы, па крэсах.






## ПАДРОБКА ПАД РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Трэба ў краме бываць часцей,
каб здабыць на вячэру штосьці —
а да д'ябла такіх гасцей,
хто пустымі ходзяць у госці!

Не хадзіць тут розным гасцям —
больш Айчыну не праваронім!
А ўсялякім расейскім «Вестям»
вырвем гонар з пер'ем варонім!

Прагінаецца грунт — як гонт.
Ціхне ворагаў брэх сабачы.
Беларускі Народны Фронт
збаламуціў мае Ушачы.

Нас круціла доля ўсяляк.
Нас трымалі — як неграў у труме.
...ночччу сніцца Зянон Пазьняк
на парламенцкай страшнай трыбуне.

І лячу я за ім — да зор!
І раву, пакуль не прачнуся:
— Вось які Барадулін Рыгор,
наш народны паэт Беларусі!



## НА РОДНАЙ ВУЛІЦЫ

На вуліцы маёй які ўжо год
то раскапаюць брук, то на рамонце крама,
у Івановых знікла ноччу брама,
а мясакамбінат пусціў смурод —
ніякай якасці, а толькі гоняць вал!
І Сідараў падаўся на Урал...

Тут сеў Пятроў — і ляснула брыгада.
А бабе што! Знайшла другога гада,
купляе золата — зубамі зіхацець,
а так вішчыць, што можна звар'яцець,
чым і займаюцца тутэйшыя бічы.
А што ты зробіш?! Слухай і маўчы...

На вуліцы ні сябра, ні сабакі.
Пустыя крамы... і адны палякі!

Спакойны жулік Рабіновіч Лёва
знянацку на старэйшага Пятрова
наскочыў і пайшоў на бюлетэнь —
такія вось здарэнні кожны дзень,
і гінуць людзі проста задарма,
і прыкладу для моладзі няма.

У цёткі Мані меншая дачка
абрэзала спадніцу да нічога,
калі стары Іван з настрою злога
білет парцейны кінуў да бачка,
крычаў, буяніў і пратэставаў,
ды ўсё чапляўся да Дзіка Валеры:
— Калі ты зробіш мітынг, да халеры?! —
і мацюкамі ў белы свет даваў.
Патруль прыехаў. Бараніць народ.
Скандал пачаўся, гледачы паўсталі...
А выйшла зноў усё наадварот!

Не — каб Івана здаць. Дык закрычалі
пра цэны і пра тое, як раней,
пра мафію і розных ненажэрцаў,
запалашылі вутак і свіней,
і сплюнуўшы, сяржант заляснуў дзверцы.



Адзін Пацук Валодзя паглядзеў
крыху іначай на такую справу,
сказаў, што рана, што Іван здурэў,
што самы час ісці пісаць заяву —
прымаюць лёгка і за пяць мінут.
Куды ні глянеш, дык суцэльны цуд...

## НІ ПАРАДКУ, НІ КРЫКУ...

Ні парадку, ні крыку —
а толькі крадуць і цягаюць!
Ні вайны, ні пакутаў —
а людзям не трэба зямлі!
Гэта ж злодзеі ходзяць
і бедны народ падбіваюць,
панапісвалі вершаў,
фальваркі бацькоў прапілі.
За гарэлкай забылі
працоўныя свой абавязак,
а кругом дармаедаў
адных распладзіў інстытут —
ім бы свінак трымаць,
а не слухаць прафесарскіх казак!
А іначай мы ўсе
перадохнем ад голаду тут.
А ў суседняй Еўропе
на густы любыя ёсць чарка —
і нікому ж не шкодзіць,
апроч эмігрантаў ад нас!
І пры ўладзе паэты?!
І неяк стаіць гаспадарка?!
А тут робіш і робіш,
і нервы марнуеш, і час...



## НА ВУЛІЦЫ ПРАЗ ГОД

Крывая і гарбатая мая,
пятнаццаці рэспублікаў сям'я,
эх, вулка мілая, адвечны край зямлі!

— Ну, як вы тут здаровыя былі?
Як справы у часы перабудовы?!
— А дзякуй Богу! Як і год назад:
у цёткі Мані два бычкі й карова,
пусцілі, як ударніка, Пятрова,
а той напіўся і... абхаяў лад,
суседзяў, жонку і такую волю!
Прыехаў Сідараў — і зазлаваў на долю,
бо ў Рабіновіча забралі апарат,
такая непрыемная падзея:
паверыў прапагандзе нейкі гад —
і накляпаў на беднага яўрэя!
А перад тым нядрэнна справы йшлі...

— А выбары былі? — Ўвесь год былі!
Начальства тут не здолела пагрэцца,
наш перамог, такі Валера Дзік —
прыйшоў, наабяцаў і... раптам знік.
Ну, хлопец малады, ён разбярэцца.

А ўвогуле — заўсёды можна жыць,
такога нам ніхто не забароніць:
адзін не гоніць і спакойна спіць,
другі не спіць, але спакойна гоніць.
Пятроў купіў дэсантны аўтамат,
да Рабіновіча бітоны возіць брат,
а цёткі Мані меншая дачка
пайшла за участковага Валодзю Пацукова,
дык, пэўна, і прыйшла перабудова
да нашага заспанага кутка.
Што хочаш, гавары — і ўсім пляваць!
Стары Іван як стаў мітынгаваць,
дык Маня ногі збіла за бычкамі.
— Халеру вам! — крычыць. — Рабіце самі!

— То, кажаш, час цячэ?
— А ўсё цячэ!
Хай Бог дарue й цешча не ўрачэ:
вунь мясакамбінат пусціў смурод,
у Івановых знікла ноччу брама,
то раскапаюць брук, то на рамонце крама
на роднай вуліцы —
    якi ўжо, зрэшты, год...



## ЛІБРЭТА ВЯСКОВАЙ АПЕРЭТКІ

## САВЕЦКАГА ЧАСУ

«Тут ніхто не ходзіць
і ў ману не ўводзіць —
тут яшчэ ніколі дурняў не было!
Супакойся, Кася, і не бойся хлопцаў —
ад Масквы да Стоўбцаў
край не аддамо!
Ах, ты, камсамолка,
тонкая, як голка!
Ты другіх не слухай —
слухай толькі нас.
Хай не страшаць людзі,
што з табою будзе —
пэўна, ніц не будзе,
як праз цэлы час!
Гэта у Гародні
ходзяць на галовах
і апошнім словам
партыю клянуць!
Ты не бойся, Кася,
да сваіх хавайся —
і цябе ніколі
ім не падмануць!
Скончым перастрэлку,
выжанем гарэлку,
пойдзеш, Кася, замуж,
будзеш доўга жыць...
А ўжо з тым паскуддзем
разбяруцца людзі!
Як народ захоча —
так таму і быць!».






# Д Э М А К Р А Т Ы Я



Каталік бяжыць у касцёл,
праваслаўны ў царкву.
За кароўнік варона ляціць,
за мяжу дэпутат.
Спекулянт глядзіць на Стамбул,
пан маёр на Маскву.
Толькі мокне адзін пад дажджом
самотны вуніят...






# П А С Т А Р А Л Ь К А

Край без імя, прозвішча і году нараджэння
спрабуе паўстаць з магілы,
робіць поспехі —
ужо стаіць на каленях!

Будуць новыя пашпарты — як у Еўропе!
Толькі імя і прозвішча — без дыскрымінацыі.
Але паўстае праблема: як пісаць?
Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч
альбо —
Шушкевіч Станіслаў, сын Станіслава?!
Каб не наследаваць імперскую Расею...

Да таго ж —
палякі пратэстуюць, што іх пазбавяць польскасці,
касуючы пятую графу.

Край раздзіраюць
дзве праблемы нацыянальнага адраджэння —
бензін і цукар.
Праблема самога адраджэння вырашаная —
мова стала дзяржаўнай.
А якая дзяржава — такая і мова.

Беларускія батальёны рыхтуюцца да бітвы
за ўраджай на палях братняга Казахстана.
«... з нашым войскам незале-ежным
да сваёй зямлі адзі-інай...»

Ні кроплі дажджу.
Збялелая трава на лугах і пустках
Новае Галілеі.






## ТАБУРЭТКА І ПАЭТКА

Не кідайся зранку табурэткай!
Лепей шчыра падзяліся чаркай.
Не хачу быць вольнаю паэткай,
а хачу быць простаю кухаркай.

Кіпцікі, сурвэткі, статуэткі...
Тут квітнеюць раннія махляркі.
Хлопцамі не цэняцца паэткі.
Ні з мяне паэткі, ні кухаркі...

## НА ПАЛІГОНЕ. 1992 ГОД...

Пан афіцэр стаіць за пляцам ззаду,
зашпільвае на спражку з зоркай нас...
— А як яны тут будуць без дагляду? —
ён думае у клопаце пра нас.

А па атаве наш Пегас пасецца —
адпасвіўся за лета наш Пегас...
— А як гэта мы будзем без расейцаў?
І хто тут за расейцаў будзе ў нас?!



## ДУМАЎ БОЖАНЬКА, ДУМАЎ

Думаў Божанька, думаў,
звесіўшы ногі з хмаркі.
Пасля зачыніліся ўдвух
з Пазьняком Зянонам
ды ў вялікім сакрэце
радзіліся без чаркі.
З неба Зянон спусціўся
стрымана-задумёным.

Пыталіся ж у Зянона
гэты і той з экстрэмістаў:
можа, Бог справядлівы
зробіць, каб нам было лепей?
Можа, згіне Чарнобыль?
Наш край адродзіцца чыстым?
Ці акіян знянацку
перавядзе пад Лепель?

Толькі Пазьняк ані слоўца
на вецер не кіне!
Распарадзіўся запрэгчы
ў камуналцы падводу.
Ды паехаў дасвеццем
да вясковага плоту.
Ды знайшоў Матку Боску
ў сялянскай хаціне.

Кажа: «Будзь пахвалёна!
І хвала Сыну Богу!
У Вострай Браме ўзышла
і схадзіла ў Жырову.
Заступніца Беларусі!
Выратуй нас і мову!
Як цяляты, шукаем
да збаўлення дарогу...»

Тут утвараюцца цуды,
з'яўляюцца белыя коні
і Зянон з мячом Чарадзея...
А Матачка Боска
бел-чырвона-белай істужкай
залатыя ўпрыгожвае скроні.
Езусу апавядае
пра беларускае войска.

## ДАЎНО ГЭТА БЫЛО

Вёў ціхі дворык у старыя сенцы.
У сенцы праз акно налезла мухаў.
Збіраліся там чыста адраджэнцы,
хто сам сябе агітаваў і слухаў.

І з імі панна ў вышытай сукенцы.
І кожны панну зрэдку вокам кратаў.
Але ніхто не кратаў за каленцы.
Яны лічыліся за дэмакратаў.

Дурэў не той, хто выступаў без толку,
а гэты ціхі лысы жук вусаты,
які на вочы не трапляў натоўпу,
бо мітынгі склікалі дэпутаты.

Вісеў на шэрых сенцах белы коннік.
Яго на пляц выводзілі зрэдзьчасу.
Ім прыкрывалі паламаны ўслонік,
бо нават цвік прыбіць не мелі часу.

Спрачаліся... Пакуль нагнала хмару
за нейкія грахі ці мо за кару,
збірацца ім сказалі пад наглядам.
А коннік стаў наперад ехаць задам.

Кансалідацыя і з гэтымі і з тымі.
Ніякія зрабіліся святымі.
Нясе свой крыж паміж рагоў алень.
І кожны, хто тут ёсць, дурны як пень.





## ПРА ШАТЛАНДСКУЮ АЎЧАРКУ БОНКУ

Рай наш — бетонны, чыгунны.
У тэлефоне — свой цэнзар.
Дзяцел тут стукае чуйны:
столь прадзяўбе, як цэбар!

Тхне ад савецкай Гародні.
Лезе смурод ва ўсе дзіркі.
Бонік, худы і галодны,
зглумзіў з Друскенікаў ныркі...

Долю, як хлеба акраец,
не прывяжэш з-за граніцы.
Ты мне паказваеш палец,
я табе — фігу ў спадніцы!

Што мы ад гадаў схавалі —
бач ты, аддай ім назад!
Самі вы збанкрутавалі —
як беларускі Урад!

Бульбу шарую на дранік —
лепш ужо пальцы скалечыць.
З'явіцца лёсу выгнаннік
з горшай, чым тут, халадэчы...

Выгляд ва ўсіх дурнаваты —
як у пабітым люстэрку.
Ды прыйдзе доктар стракаты
і прынясе паўлітэрку!

Крытык не кіне карыта,
дзікіх катоў сувязны...
Бонік — наш крытык!
Сутак хапае на сны.

Боніка мясам не купіш —
перажыла ж усе ўлады,
бачыла лівер і кукіш,
пасткі, драты і прылады.

Лепшы той знак задыяка,
хто табе ткнецца ў калені.
Бонік — найлепшы сабака.
Розум, душа і сумленне.



## ГАНДАЛЬ

За гандаль Беларуссю
шчэ не плацілі мыта.
Нікому не сцінали
на пласе галавы.

Астрожскі ды Сапега!
Ды Чарадзей ды Вітаўт!
Скажыце, як бяруцца
на родны край правы.

На гандаль Беларуссю
не накладалі вета.
Прадаўцаў прыкрывае
ўсялякі дробны рак.

Ды тут не прадаецца
ні дзеўка, ні газэта...
Не ведаючы цэнаў,
марнуюцца за так.

Гандлюе Беларуссю
савецкае начальства.
Купляе падхалімаў
або тупіц у штат.

І прадае ўсё гуртам...
А ў нас няма нахабства,
каб тут загаварыў
дэсантны аўтамат.




## ПЛАЧ ПРА ГРОШЫ

Прыстаюць браты з усходу:
— Ну, дык маеце свабоду!
Вам Еўропа дапаможа!
А ў Маскве друкуюць грошы.

Прыстаюць з заходу сёстры:
— У небе твой сярпочак востры.
Ім шпанічку жнуць анёлы.
Прадавай палетак голы.

Пруць у сенцы морды немцы:
— Дом твой купім з патрахамі.
Будзеш зноўку ты ў ярэмцы
і някормленая намі.

Зверху цягнуцца і знізу:
— Мы адрэжам поля, хмызу,
станем танкамі ў кустах
наганяць на рускіх страх.

— Не купіць вам, пустапасам,
Беларусі, што паўстала.
Хоць складзіце грошы разам,
будзе грошай вашых мала.

Навастрылі мы алоўкі,
ваяўнічы выгляд твару.
Надрукуем сторублёўкі,
фунты, талеры, даляры...



## СЫС

Мінуў пісьменніцкі з'езд.
У наступ ідуць амазонкі.
Сыс прапівае «Пан Лес»
увесь да апошняй сасонкі.

Пазьняк у саветы залез.
У вёсцы няма самагонкі.
Сыс прапівае «Пан Лес»
увесь да апошняй сасонкі.

Зачынены бар на рамонт.
Грызіце, пісакі, гліну.
А Сыс не збаўляе понт.
І з ім запівае Чыгрынаў.

На пляцах маўклівы люд.
А Данчык кліча за мора.
А Сыс прапівае тут
усё беспрасветнае гора.

Сыс заганяе за так,
наліўшы ў кяліх пільгрыма,
увесь папяровы бардак,
не тоячыся, без грыма.

На ўсіх нападае шыз.
Расстрэльваюць нас не з абрэзу.
Ты вырубіўся, пан Сыс,
у Менску — адзін сярод лесу.

Я вып'ю з табою, Сыс,
у хустцы вясковай кралі.
Не ўмееш глядзець уніз?
А неба ў цябе ўкралі.

## ПАДКЛЯПАНЦЫ

За светам недзе вёска Падкляпанцы,
а там жывуць манюкі, ашуканцы.

Былі аднойчы ў Падкляпанцах
танцы.
На танцах нехта рэкнуў недарэчы:
— Усе вы, падкляпанцы,—ашуканцы.
Ён ляпнуў, а ніхто не запярэчыў.

А гэты быў таксама падкляпанец.
Тады не ўсе, выходзіць, падкляпанцы
манюкі, недавукі, ашуканцы...
Дык ён з другога боку ашуканец.

Ну й накляпалі гэтакіх без клёку
аж ад Смаленска да Беластоку.
Усюды языком наводзяць глянец.
Тут разбярэшся, хто не падкляпанец.

## В е ц е р

Апоўначы прыйдзе мужчына.
Пойдзе, прыкрыты дасвеццем.
Любоў — скразняку адпачынак.
Мужчына — вецер.

Пойдзе ў гушчар канапляны.
Паўдня паіграе ў карты.
Прытворыцца ў дым п'яным.
Словы звядзе на жарты.

Словам яго не зловіш.
Скажы ты ветру спыніцца.
З сэрца яго не звольніш,
як з працы звальняюць ляніўца.

— Шукай, — скажа, — ветру ў полі,
тады, як ветру няма.
Ён бы яшчэ пасваволіў,
ды болей грошай няма.







## К а ш у л я

— Хочаш, вымыю кашулю,
адзінокі хлопец?
Станеш франтам і забудзеш
усялякі клопат.

Покуль сохне ды беліцца кашуля,
хлопец горкую гарэліцу каштуе.

— Хіба цяжка кашулю мне выпраць?
— Хіба лёгка дзяўчыну мне выбраць?

— Я і гузік на месца прышыю.
Як каўнерык прыляжа на шыю,
у рукавах сагрэюцца рукі,
пажвавеюць у няўдалага рухі.

Пойдзе ён па святочнай нядзелі
прытуляць да кашулі гэтай дзевак.
Закаханым прытворыцца міла.

Я кашулю за так хлопцу мыла.



* * *

Смуглатварай, шэравокай
варта толькі падрасці —
ад прыгожых абібокаў
супакою не знайсці.

Сцерагуць з-за кустоў.
Высылаюць сватоў.
Ручку чмокаюць бабулі
ды падманваюць братоў.

Маладая страказа
не давала б гарбуза.
Але з гонарам тутэйшым
бацька пас расперазаў.

— Покуль топчаш гультая
у бліскучым боце,
прыгажуня не твая,
не твая, і годзе...

* * *

Ці цябе Красуля
укалола рогам?
Ці табе красуня
перайшла дарогу?

Мо дадому ехаў,
асядлаўшы рэха,
ды віхуры ў лесе
смех увесь абтрэслі?

Можа, брыў цераз брады
ды набраў у рот вады,
што як сеў на ганку,
то маўчыш да ранку?

## Д з і к і

Лузалі жалуды дзікі.
Ішлі дубровай дзяцюкі
ды пачалі ламаць сукі.

Старэйшы дзік быў гаваркі.
І кажа:
— Ў панядзелак
вяртаюцца ад дзевак
усе на свеце дзецюкі.
Не заступаюць ім дзікі.
А вы ламаеце сукі?
Дык вы дзічэй,
чым мы, дзікі.



## П Р Ы П Е Ў К І

— Адчыняйце насцеж дзверы —
ідуць кавалеры.
Млее, млее гурт дзявочы —
апускае долу вочы.
Кавалеры проста ў гурт.
Кожны мае кралю тут.

— Я сваю каханачку
вяду на паланяначку.
— Я свайго каханага
трымаю зацуглянага.

— Я тваю каханачку
прытулю да ранaчку.
Каб цябе не ўспаміналa,
зачарую шкляначку.

— Я твайго каханага,
крышачку рахманага,
у падушцы утаплю,
да сэрца прыкаванага.





## Р А З Я В А

Дзядзька, сын твой разява!
Я стаяў каля нашых варот.
Ён аглобляй ад воза
як сунецца мне
проста ў рот.

Але я не разява:
рот раскрыўшы,
далей не драмаў —
хоць і выламаў зубы,
аглоблю таксама зламаў.






## БАБКА І ЖАБКІ

— Ты чаго назбірала, бабка,
у фартушок з мярэжкаў?
— Палавіла жэўжыкаў-жабкаў
з вузенькіх сваіх сцежкаў.

А то яшчэ хоцькі-няхоцькі
наступлю каторай на лапку.
Будуць кульгаць жабоцькі
і праклінаць мяне, бабку.

Я іх нясу на лужок,
прастор там на скокі-пацешкі.

— А ты разгарні фартушок!
— Ой, уцяклі праз мярэжкі!
Адна схавалася ў складку...
Давядзецца лавіць спачатку.

## СВЯДОМАСЦЬ БУЯЕ

Свядомасць буяе,
як хрэн у гародзе.
І родная мова
нібыта ў выгодзе.

Шырокая ў прорву
вядзе нас дарога.
Залезлі ў тупік.
Вінаватых — нікога.

Тут кайстры жабрацкай
жабрак пазайздросціў...
А кажуць, нібыта
мяняецца штосьці.






З М Е С Т

Алесь ЧОБОТ — Данута БИЧЕЛЬ
КРЕСОВЯКИ
Стихи

Алесь ЧОБАТ — Данута БІЧЭЛЬ
КРЭСАВЯКІ
Вершы

Рэдактар Нэля ТУЛУПАВА.

Тэхнічны рэдактар Галіна ПІГО. Карэктар Валянціна ШУСТ.

Здадзена ў набор 24.06.93. Падпісана да друку 09.08.93.
Фармат паперы 60x84[1]/16. Папера афсетная № 1.
Школьная гарнітура. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,0. Фарб.-адб. 2,4. Ул.-выд. арк. 1,5.
Тыраж 5000 экз. Зак. 630.

Адрас рэдакцыі:
220041, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220041, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.